**№№11–12**
**(3550–3551)**

20 студзеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Вынік дзяржаўнай кампаніі па барацьбе з п'янствам: у мінулым годзе продаж гарэлкі вырас на 18 працэнтаў

*Так, вынік дзяржаўнай кампаніі па барацьбе з п'янствам: у мінулым годзе продаж гарэлкі вырас на 18 працэнтаў.*

*Такія звесткі абнародаваў Белстат.*

*Усяго ў Беларусі было прададзена 12 млн 174,6 тыс. дал гарэлкі, яе доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 46,4% (годам раней — 42,8%). Таксама выраслі аб'ёмы продажу лікёра-гарэлачных вырабаў, піва, вінаградных він. Затое крыху (на 8,6%) знізіўся продаж так званага "чарніла".*



**(Здымак зроблены падчас "Рыбнага кірмашу" ў Мінску.)**

САЛІДАРНАСЦЬ

## *Дзякуй вам, людзі!*

18 студзеня жонка Алеся Бяляцкага перавяла на рахунак Упраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама для суда Першамайскага раёна 757 мільёнаў 526 тысяч 717 рублёў — прысуджаную суму ўрону, нібыта нанесенага дзяржаве праваабаронцам.

*"Перадаю словы падзякі ўсім, хто спрычыніўся да збору сродкаў для Алеся. Людзі пералічалі грошы ў рознай колькасці — хто пятнаццаць, хто сто, хто дзвесце тысяч, ёсць унёскі і па мільёне. Любая сумма з'яўлялася вельмі каштоўнай. Шчыра дзякую ўсім, хто ахвяраваў грошы!"*— адзначыла жонка праваабаронцы Наталля Пінчук.

Ужо падлічана, што грошы ў падтрымку Алеся Бяляцкага пералічылі блізу тысячы чалавек па ўсёй краіне. Родныя і сябры спадзяюцца, што выплата пазначанай судом кампенсацыі паспрыяе вызваленню праваабаронцы.

ПАДЛІЧЫЛІ

## *Амаль чвэрць пенсіі — выкінулі*

Рэальны памер пенсій, разлічаных з улікам змянення індэкса спажывецкіх цэн на тавары і паслугі, за год паменшыўся на 23 працэнты.

Такія даныя апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт.

Сярэдні памер пенсій па ўзросце ў 2011 годзе склаў 974.000 рублёў, па інваліднасці — 872.000, у сувязі са стратай карміцеля — 634.000 рублёў.

Сярэдняя сацыяльная пенсія ў Беларусі складала ў мінулым годзе ўсяго 531 тысячу рублёў.

Дарэчы, усяго ў Беларусі на канец 2011 года пражывала 2 мільёны 487 пенсіянераў.

# ЗВАРОТ

## ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аляксандр Рыгоравіч!**

Так здарылася, што жыццё адразу некалькіх вядомых беларусаў залежыць менавіта ад Вас. Гэтыя людзі з'яўляюцца Вашымі палітычнымі апанентамі, але яны не ворагі беларускага народа. Таму пераканаўча просім Вас: выпусціце іх на волю.

Кожны дзень пазбаўляе палітзняволеных здароўя, забірае ў іх гады жыцця. Гэтыя людзі сёння знаходзяцца ў турмах, хаця яны не злачынцы. Наадварот, яны рабілі ўсё магчымае дзеля таго, каб жыццё ў Беларусі стала лепшым. Рабілі так, як таго патрабавала іх сумленне.

Аляксандр Рыгоравіч, заклікаем Вас не адказваць жорсткасцю на клопат людзей пра сваю Радзіму. Выпусціце іх, у Вас ёсць для гэтага правы.

Мы ўпэўнены, што гэты зварот падтрымаюць амаль усе беларусы. Бо незалежна ад палітычных поглядаў, беларусы хочуць свайму дому міру, спакою і згоды.

**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**Народны паэт Беларусі,**
**Віктар ДАШУК,**
**рэжысёр, Народны артыст Беларусі,**
**Зінаіда БАНДАРЭНКА,**
**Народная артыстка Беларусі,**
**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук,**
**Леанід ЛЫЧ,**
**прафесар, доктар гістарычных навук.**

ПАЛІТКУХНЯ

*Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:*

# «Калі з'езд абярэ старшынёй кагосьці іншага, то я спакойна сыду з пасады. Але не з партыі»

*Лідар "Маладых дэмакратаў" — маладзёжнага крыла Аб'яднанай грамадзянскай партыі Алег Корбан абвінаваціў партыйнае кіраўніцтва ў "боязі альтэрнатывы"...*

У сакавіку-красавіку бягучага года пройдзе чарговы справаздачна-выбарчы з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі. На ім павінна быць абрана новае кіраўніцтва АГП. Але па даўняй партыйнай традыцыі наўрад ці яно будзе сапраўды новым.

Па крайняй меры, кіраўнік маладзёжнага крыла АГП звязвае нядаўняе выключэнне з партыі Андрэя Дзмітрыева з боязззю цяперашняга кіраўніцтва згубіць уладу.

*"Думаю, што кіраўніцтва партыі баіцца альтэрнатывы, тым больш перад маючым адбыцца з'ездам,* — мяркуе Алег Корбан. — *Тады які сэнс маладым, талковым людзям, якія не хочуць увесь час клеіць і раздаваць улёткі, быць у партыі? Амбіцыі тут хаваюць. Ініцыятыўнасць тут не заўжды вітаецца, гэта я ведаю дакладна".*

"Хто наступны на выключэнне?" — задаецца рытарычным пытаннем Алег Корбан.

Зерне здаровага сэнсу ў разважаннях аб неабходнасці змен у першых шэрагах апазіцыянераў, пагадзіцеся, ёсць. Хаця б таму, што кіраўнікі дэмакратычных партый адкрыта крытыкуюць Аляксандра Лукашэнку за тое, што ён узурпіраваў уладу ў краіне і цягам амаль 18 гадоў не хоча яе саступаць. Але ў партыях, якія прапагандуюць дэмакратычныя каштоўнасці, сітуацыя не нашмат лепшая. І некаторыя кіраўнікі гэтых структур знаходзяцца ў сваіх крэслах столькі ж, колькі Лукашэнка ў крэсле кіраўніка Беларусі...

Што тычыцца Аб'яднанай грамадзянскай партыі, то яе цяперашні кіраўнік Анатоль Лябедзька быў абраны старшынёй у красавіку 2000 года. З той пары — хутка 12 гадоў (!) — бяссменна кіруе АГП.

"*Шчыра кажучы, для мяне была нечаканай такая пазіцыя Алега Корбана,* — прызнаецца Лябедзька. — *Чаму я столькі гадоў пры пасадзе? Па шчырасці, я хацеў пакінуць пасаду старшыні АГП адразу пасля мінулых прэзідэнцкіх выбараў. У мяне быў спіс з тых асоб, якія маглі заняць маё месца. Але, трэба прызнаць, што ўнутры АГП недастатковая матывацыя для таго, каб вылучацца на пасаду старшыні. Быць старшынёй АГП у тых умовах, у якіх партыя існуе зараз, і ў тым фармаце, у якім яна працуе, — гэта вялікая адказнасць.*

*Калі б наша з вамі размова адбылася восенню 2010 года, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, то я сказаў бы вам, што, хутчэй за ўсё, пакіну пасаду старшыні пасля іх. А зараз мая пазіцыя наступная: я буду змагацца за пасаду старшыні АГП, бо не хачу, каб партыя, якой я аддаў значную частку жыцця, партыя, якой пааддавалі жыццё і здароўе дзясяткі выбітных людзей, перайшла ў нечыя дрыжачыя ці ліпкія рукі... Але пры гэтым дыктатуры у АГП не будзе. Калі з'езд абярэ старшынёй кагосьці іншага, то я спакойна сыду з пасады. Але не з партыі".*

Ці нармальна, калі ля руля апазіцыйнай партыі шмат год знаходзяцца адны і тыя ж людзі, якія пры гэтым крытыкуюць Аляксандра Лукашэнку за тое, што ён не хоча пакідаць займаемую пасаду?

### ПАРТЫЙНЫ ПОГЛЯД

Сябра палітсавета АГП **Анатоль Паўлаў** лічыць некарэктнымі падобныя параўнанні:

— *Гэтыя рэчы нельга змешваць,* — гаворыць Анатоль Васільевіч. — *Чаму нельга крытыкаваць Лукашэнку за доўгае знаходжанне ва ўладзе? Можна. А што тычыцца апазіцыйных партый, то тут сітуацыя іншая. Па-першае, не так проста знайсці годную замену для кіраўніка апазіцыйнай партыі, асабліва ў нашых умовах. Па-другое, апазіцыянерам у Беларусі не так проста ўладкавацца на працу. Я, былы прарэктар БДУ, палітык не такі засвечаны, як Анатоль Лябедзька, і тое не магу ўладкавацца — нават дацэнтам не бяруць. Што ўжо казаць пра Лябедзьку!..*

### БЕСПАРТЫЙНЫ ПОГЛЯД

А што думаюць на гэты конт простыя, далёкія ад палітыкі людзі?

Пенсіянерка **Зоя Чурыла** лічыць, што ратацыя ў кіраўніцтве апазіцыйных партый быць усё ж такі павінна:

— *Калі адзін чалавек доўга знаходзіцца на пэўнай пасадзе — гэта дрэнна, бо гэта вядзе да застою. У выпадку з Лукашэнкам — у застойным перыядзе апынулася Беларусь, у выпадку са шматгадовымі лідарамі апазіцыйных партый — гэта вядзе да застою ў дэмакратычным асяродку.*

*Я так разумею, палітычныя партыі павінны змагацца за ўладу і прыходзіць да яе. Крытыкаваць Лукашэнку за доўгае знаходжанне ва ўладзе можна і трэба. Але хто крытыкуе? Тыя апазіцыянеры, якія ўпарта не жадаюць сысці з першых пастоў, даць дарогу іншым лідарам? Чым тады яны лепшыя за Лукашэнку?*

*Па-мойму, апазіцыі зараз увогуле не чутно. За апошнія гады ў парламенце няма ніводнага апазіцыйнага дэпутата. А калі няма выніку ў палітычнай барацьбе, мне здаецца, трэба саступаць месца іншым... Няхай спрабуюць яны.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## *Да выбараў рэформ не будзе*

*Аляксандр Лукашэнка заявіў аб магчымасці мадэрнізацыі палітычнай сістэмы Беларусі. Аб гэтым ён паведаміў у інтэрв'ю вядучым кітайскім СМІ.*

На думку беларускага кіраўніка, неабходна рэагаваць на змены міжнароднай сітуацыі. Таму сёння, па словах Лукашэнкі, беларускія ўлады вывучаюць пэўныя тэндэнцыі ў свеце і будуць да іх прыстасоўвацца, мадэрнізуючы палітычную сістэму. Але..

*"Сур'ёзная ўвага на палітычныя рэформы, або рэформу палітычнай сістэмы Беларусі, будзе звернута пасля парламенцкіх выбараў",* — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

*У мінулым нумары "Народная Воля" артыкулам Віктара Івашкевіча "Ісці на псеўдавыбары ці ладзіць байкот?" пачала дыскусію на тэму, якая стане ў гэтым годзе ці не самай гарачай. Першыя водгукі ўжо прагучалі.*

## *Байкот ад слова «байка»?*

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўпэўнена, што байкоту парламенцкіх выбараў з боку апазіцыйных партый не будзе. Пра гэта яна заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН.

*"Асновай існавання ўсіх палітычных сіл, якія ў нас называюцца апазіцыйнымі, з'яўляюцца тыя замежныя інвестыцыі, якія яны атрымліваюць па праграме развіцця дэмакратыі. Калі яны не будуць удзельнічаць у выбарах і праводзіць нейкія палітычныя акцыі, гэтыя сродкі (а гэта іх заработная плата) ім не будуць выдзяляцца. Таму, я думаю, усе гэтыя заявы з'яўляюцца спробамі запалохаць уладу, прычым вельмі непераканаўчымі",* — сказала Ярмошына.

Яна адзначыла, што пагрозы байкоту выбараў гучаць напярэдадні кожнай выбарчай кампаніі.

*"Толькі аднойчы, у 2000 годзе на парламенцкіх выбарах, рэальна ажыццяўляўся байкот з боку некаторых апазіцыйных партый. За мінулыя 11 гадоў, нягледзячы на заявы, ніхто дзеянняў па байкоце не ажыццяўляў",* — пераконвае Ярмошына.

Большасць партый не вызначылася з тым, як будуць паводзіць сябе падчас выбарчай кампаніі. Але папярэднія меркаванні істотна адрозніваюцца.

Да байкоту выбараў праз зварот да студзеньскага сойму Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ заклікаў сваіх аднадумцаў Зянон Пазьняк.

А вось старшыня партыі левых "Справядлівы свет" Сяргей Калякін схіляецца да ўдзелу ў парламенцкіх выбарах, хаця і гэтая партыя пакуль не прыняла канчатковага рашэння адносна ўдзелу альбо байкоту.

*"Гавораць, што выбараў сёння няма, што ёсць палітычныя вязні,* — разважае Калякін. — *А што, раней палітычных вязняў не было? Няўжо тыя кандыдаты, якія ішлі на прэзідэнцкія выбары, не разумелі, што выбараў няма? Добра разумелі. Але яны ішлі. І яны правільна ішлі! Яны ішлі для таго, каб хвалявац, мяняць палітычную сістэму, каб прапанаваць людзям альтэрнатыву дэмакратычную, другое жыццё, лепшае за тое, якое цяпер пры існуючым дыктатары і пры гэтым палітычным рэжыме. І яны правільна дзейнічалі. Чаму мы сёння павінны дзейнічаць па-іншаму, я не зусім разумею. Таму на сённяшні момант ніхто мяне не пераканаў у мэтанакіраванасці і правільнасці арганізацыі байкоту".*

А што думаеце вы, паважаныя чытачы?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РЭГІЁН

## *Студэнты патрабуюць...*

Прыблізна тысяча подпісаў сабрана пад зваротам брэсцкіх студэнтаў да мясцовых улад, у якім гучыць патрабаванне вырашыць пытанне з кампенсацыяй за жыллё тым, каму не хапіла месца ў інтэрнатах. У Мінску студэнты маюць права на кампенсацыю ў памеры трох базавых велічынь, а ў астатніх гарадах — двух базавых велічынь. Але, як высветлілася, з-за бюракратычных перашкод атрымаць нават такую невялікую суму фактычна нерэальна, таму студэнты і вырашылі скласці зварот да ўлад.

Хаця з дапамогай згаданых 70 тысяч рублёў вырашыць жыллёвае пытанне студэнтам зусім нерэальна. За такія грошы пры сённяшніх цэнах нават не наясіся добра.

ЕЎРОПА



# Марцін Шульц змяніў Ежы Бузека

Немец Марцін Шульц змяніў паляка Ежы Бузека на пасадзе старшыні Еўрапейскага парламента.

Выбары кіраўніка Еўрапарламента прайшлі ў Страсбургу.

Марцін Шульц "вядомы як чалавек перакананняў, які не баіцца гаварыць тое, што думае", — так характарызуе новага старшыню сайт Еўрапарламента.

Шульц нарадзіўся 20 снежня 1955 года ў невялікім нямецкім горадзе Хельрат на мяжы Германіі, Галандыі і Бельгіі. У 1982 годзе адкрыў уласны кніжны магазін, якім валодаў 12 гадоў.

Ва ўзросце 19 гадоў уступіў у Сацыял-дэмакратычную партыю Германіі (СДПГ). У Еўрапарламент быў абраны ў 1994 годзе. Браў удзел у працы падкамітэта па правах чалавека і камітэта па пытаннях грамадзянскіх свабод. З 2004-га па 2012 год узначальваў парламенцкую групу сацыялістаў. Пасаду старшыні Еўрапарламента Шульц будзе займаць да 2014 года.

### ПОГЛЯД З МІНСКА

Былы экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта **Уладзімір Някляеў** лічыць, што чакаць ад новага кіраўніка Еўрапарламента Марціна Шульца нейкіх радыкальных змен у палітыцы да Беларусі не прыходзіцца.

— Першы час, пакуль ён будзе разбірацца і прымярацца да новага крэсла, будзе нейкі зацішак, — лічыць Някляеў. — Нельга чакаць, што ён прыйдзе і нешта такое крэатыўнае зробіць. Але не можа немец быць не-немцам, і не можа ён выходзіць за рамкі ўжо неяк абазначанай палітыкі той краіны, якая фарміруе большую частку палітыкі Еўрасаюза. Ён будзе, відаць, прытрымлівацца ўзгодненай нямецкай пазіцыі ў адносінах да Беларусі. А яна, як бачым, даволі роўная. Калі не сказаць — надта роўная.

Кіраўнік руху "За свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** робіць акцэнт на тым, што Шульц усё ж такі чалавек левых палітычных поглядаў, у адрозненне ад Бузека, які належыць да правацэнтрысцкай партыі.

— Правыя заўсёды больш адназначна падыходзяць да маральных каштоўнасцяў, да правоў чалавека (няма нічога дзіўнага, што і Бузек быў такім самым), але Еўрапарламент — гэта не аўтарытарная арганізацыя, як наша краіна. Там не адна асоба вырашае галасаванне па рэзалюцыях, па рашэннях, якія Еўрапарламент зацвярджае. Гэта дэмакратычная структура, і сацыял-дэмакраты там як былі меншасцю, так і застануцца, нягледзячы на тое што іх лідар стаў на два гады старшынёй Еўрапарламента. Кіраўнік уплывае, але гэты ўплыў абсалютна не вырашальны, — так пракаментаваў прызначэнне Марціна Шульца Аляксандр Мілінкевіч.

Першы кіраўнік Беларусі **Станіслаў Шушкевіч** добра знаёмы з новым кіраўніком Еўрапарламента.

— Ён сапраўдны сацыял-дэмакрат. Я з ім добра знаёмы, сустракаўся не раз у Страсбургу. Ён добра ведае Мікалая Статкевіча. Ён з тых палітыкаў, хто правільна ставіцца да Беларусі, гэта значыць разумее, што тут дыктатура, што Лукашэнку перавыхаваць немагчыма. Ён будзе працягваць палітыку Ежы Бузека. Ён можа знайсці прылады ўздзеяння на Беларусь, бо прадстаўляе магутную ў эканамічным плане краіну, канцлер якой таксама добра разумее, што такое Беларусь. Нічога добрага яго абранне Лукашэнку не абяцае, — прагназуе Шушкевіч.

### ТЫМ ЧАСАМ

## Ежы БУЗЕК: *«Беларусь — мая параза»*

Былы старшыня Еўрапарламента Ежы Бузек лічыць асноўнай паразай свайго кіравання гэтай структурай правал еўрапейскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі.

— Нягледзячы на вялікія намаганні, сітуацыя ў Беларусі значна пагоршылася, — зазначыў палітык, падсумоўваючы ў Варшаве свой двухгадовы тэрмін кіравання Еўрапарламентам. Бузек звярнуў увагу на неабходнасць падтрымкі дэмакратычнага руху ў Беларусі, паколькі толькі грамадзянская супольнасць можа змяніць Беларусь. На яго думку, „нельга цярпець" сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі, аднак даволі складана паўплываць на палітыку краіны.

Бузек таксама лічыць, што цяпер перад Еўрасаюзам стаіць дылема, паколькі, з аднаго боку, неабходна шанаваць правы чалавека, а з іншага — незалежнасць Беларусі трапляе пад усё большую залежнасць ад Расіі з-за пагаршэння эканамічнай сітуацыі.

Народная Воля http://www.nv-online.info 20 СТУДЗЕНЯ 2012 г.

З-ЗА КРАТАЎ

*24 студзеня — шанц на змену прыгавору праваабаронцу Алесю Бяляцкаму. Менавіта ў гэты дзень справа чалавека, які сваёй дзейнасцю дапамог тысячам і тысячам беларусаў, якія апынуліся за кратамі ці адзін на адзін з праваахоўнай сістэмай, будзе разглядацца ў касацыйным парадку Мінскім гарадскім судом. Надзея на тое, што прыгавор будзе зменены, застаецца. Бо надзея памірае апошняй...*

*“Народная Воля” ўжо друкавала лісты Алеся са следчага ізалятара, у якіх ён згадвае найбольш важныя моманты ў сваім жыцці. Сёння прапануем вам працяг гэтых успамінаў — расказ пра першага палітвязня і першую палітычную галадоўку ў новай Беларусі.*

*Алесь БЯЛЯЦКІ:*

# «Камуністы і не думалі здавацца»



1990 год прайшоў пад знакам змагання з камуністычнай сістэмай. Камуністычная партыя Беларусі, якая хоць і была забюракратызавана і аслаблена, тым не менш налічвала 600 тысяч сяброў і, як спрут, працінала ўсё цела краіны, усе дзяржаўныя ўстановы. Кіраўніцтва партыі было далёкае ад разумення нацыянальных інтарэсаў, вылучалася недалёкасцю, закасцянеласцю і кансерватызмам. Нездарма пісьменнік Алесь Адамовіч назваў тагачаснае беларускае кіраўніцтва “беларускай Вандэяй”. На той час відавочна было, што менавіта камуністычная партыя, камуністычная ідэалогія ўяўлялі сабой найбольшую пагрозу для незалежнасці Беларусі, якую мы выношвалі і выспельвалі ў той час, шчодра і ліхаманкава рассейваючы споры свабоды і незалежнасці па краіне.

Змаганне за фізічнае выжыванне беларускага народа, якое распачаў БНФ у 1989 годзе, узняўшы праз мітынгі, інфармацыйныя кампаніі, навуковыя канферэнцыі тэму Чарнобыльскай катастрофы і яе наступстваў, рэзка ўзняла аўтарытэт і вядомасць народнага руху ў вачах народа. Выявіліся непрыгожыя і нават злачынныя факты, калі нашыя партбосы адмовіліся ў Маскве ад саюзнай дапамогі, заявіўшы, што Беларусь сама справіцца з Чарнобыльскай трагедыяй. Затым беларускія ўлады дзе зусім схавалі, а дзе зменшылі рэальныя маштабы катастрофы, у выніку чаго дзясяткі тысяч людзей працягвалі гадамі жыць на забруджаных радыяцыяй землях. Такая сітуацыя была прамым вынікам адсутнасці права людзей атрымліваць аб’ектыўную інфармацыю.

Тым не менш камуністы і не думалі здавацца. Памятаю, як пасля першага Чарнобыльскага Шляху, які прайшоў шматтысячным шэсцем ад парку Чалюскінцаў да плошчы Леніна (цяперашняй Незалежнасці), міліцыя аб’явіла аблаву на ягоных арганізатараў — Зянона Пазьняка і Генадзя Грушавога. Пэўны час яны хаваліся, пазбягаючы арышту. У прэсе пастаянна ішла зняважаючая кампанія супраць БНФ і тых ідэалаў незалежнасці, свабоды і дэмакратыі, за якія выступаў Фронт.

А ўвосень 1990 года Фронт пачаў падрыхтоўку да масавай антыкамуністычнай акцыі. Месцам яе правядзення выбралі плошчу Леніна з помнікам Леніну, які быў сімвалам камуністаў і фізічным увасабленнем камуністычнай ідэі. Акцыя меркавалася як чыста антыкамуністычная, чыста антысавецкая акцыя, выкліканая несумяшчальнасцю ідэалогій. Яшчэ 3—5 гадоў таму такое немагчыма было сабе ўявіць. Дзясяткі гадоў перад гэтым доўгія калоны дэманстрантаў праходзілі міма бронзавага Леніна і ўскладалі яму ў балванахвальстве вянкі і кветкі.

І вось 7 лістапада тысячы людзей сабраліся на плошчы з антыкамуністычнымі лозунгамі і крычалі: “Далоў камунізм!” Міліцыянты стрымлівалі націск людзей. Я спачатку апынуўся каля Чырвонага касцёла, а міліцыянты ўнізе адціскалі людзей, прымушаючы іх адступаць да гатэля “Мінск”. Тады мы пачалі зрываць з галоў міліцыянтаў зімовыя шапкі і закідваць іх як падалей. Стройныя ланцугі супрацоўнікаў міліцыі змяшаліся. Голагаловыя пабеглі шукаць свае згубленыя шапкі.

Затым грамада людзей перабудавалася, і разагрэтыя таўханінай людзі хістануліся наўпрост да помніка Леніну. Відаць, загаду ўжываць гвалт супраць дэманстрантаў не было, і людзі адцяснілі міліцыянтаў і прарваліся да Леніна. Прамоўцы выступалі проста з помніка. Да Леніна ўсклалі “дары” ад “удзячных беларусаў” — вянок, сплецены з калючага дроту, і лагерную фуфайку, а на сам помнік падвесілі “дасягненні” камунізму: сетку-авоську з пустымі пляшкамі ад гарэлкі і віна.

У чалавеку, які вазюкаўся з гэтай авоськай, у хутка надышоўшай восеньскай цемры я пазнаў майго знаёмага, былога аспіранта Інстытута філасофіі Акадэміі навук Валеру Сядова. Валера — высокі, гучнагалосы, экспрэсіўны і шчыры, блакітнавокі і барадаты — не раз быў госцем у маім аспіранцкім пакоі.

Акцыя скончылася, людзі спакойна разышліся. Але яна, мабыць, нагнала страху ў душы кіраўнікоў кампартыі. Яны ўпершыню ўбачылі, як шмат людзей выступае супраць камунізму. І гэты страх яны ўжо не забудуць. Ён узнавіцца ў 1991 годзе, калі пасля няўдалага антыгарбачоўскага перавароту дэпутаты-камуністы пад ціскам фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце прагаласуюць за роспуск камуністычнай партыі і за абвяшчэнне незалежнасці.

Але тады, у 1990 годзе, камуністычная ўлада яшчэ спрабавала кантраляваць сітуацыю. У выніку гэтай акцыі была ўзбуджана крымінальная справа: Валеру Сядова як аднаго з актывістаў арыштавалі і кінулі ў СІЗА. Такім чынам, ён стаў першым палітычным зняволеным у новай гісторыі Беларусі. За кратамі ён распачаў першую палітычную галадоўку. Зянон Пазьняк, які быў ужо дэпутатам Вярхоўнага Савета, разам з іншымі дэпутатамі-фронтаўцамі ўзнялі гвалт, і Валеру праз некаторы час выпусцілі з СІЗА.

У сувязі з гэтай справай мяне выклікалі ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе следчы абвясціў мне, што я з’яўляюся сведкам па факце злачынства каля помніка і мушу даць паказанні. Я палічыў узбуджэнне гэтай крымінальнай справы незаконным. Відавочнай была яе палітычная падаплёка. Судзіць трэба было не тых, хто выступіў супраць камунізму, а сам камунізм як чалавеканенавісніцкую ідэалогію, якая прынесла столькі гора і нягод беларускаму народу.

Усё гэта з абурэннем і заўзятасцю я выказаў следчаму і абвясціў, што ў знак пратэсту адмаўляюся даваць хоць якія паказанні. Следчы паведаміў, што сведка мусіць гаварыць, інакш ён можа ўзбудзіць і супраць мяне крымінальную справу. Я ж заўпарціўся і стаяў на сваім. Следчага таксама заела, ён выклікаў сведкаў і склаў на мяне пратакол.

Крымінальная справа па падзеях на плошчы Леніна ці то завісла, ці то рассмакталася, але дзесьці праз месяц мяне зноў выклікалі ў міліцыю і паведамілі, што супраць мяне ўзбуджана крымінальная справа за адмову даваць паказанні ў якасці сведкі. Я быў азадачаны такім паваротам гэтага жыццёвага сюжэта. Ужо і справа, па якой я праходзіў сведкам, паехала ў архіў, ужо і Валера Сядоў даўно быў на свабодзе, а мяне спрабавалі пакараць.

Размаўляў са мною ўжо іншы следчы, хлопец гадоў 30 з кепскім зрокам. Ён сказаў мне, што цалкам разумее мае погляды, разумее, што першая справа была ўзбуджана па палітычных матывах і што ён з’яўляецца прыхільнікам дэмакратычных змен у Беларусі. Ён патлумачыў мне, што, згодна з Крымінальным кодэксам, сведка абавязаны даваць паказанні, а за адмову можна патрапіць у турму. Ён прапанаваў даць іх і запісаць у такім выглядзе: “не памятаю”, “не магу дакладна сказаць”, “не ўпэўнены”. Я пагадзіўся са следчым, і гэтую дзіўную справу супраць мяне спынілі. Было такое адчуванне, што я адмахнуўся ад яе, як ад надакучлівага авадня, які невядома чаму прычапіўся да мяне і спрабаваў уджаліць.

Ваўсю ішло стварэнне экспазіцыі музея Максіма Багдановіча, у якім я працаваў дырэктарам і які мусіў адчыніцца ў снежні 1991 года, ваўсю віравалі іншыя надзённыя палітычныя і грамадскія падзеі. І я быў завязаны ў гэтым па самыя вушы. Памірала савецкая і нараджалася Новая, Незалежная Беларусь. На нашых вачах і пры нашай дапамозе адбываўся гэты цуд, і мы спрыялі яму з усяе моцы.

## Выслужыўся



*Дзяржаўны абвінаваўца па справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага Валерый Сайкоўскі стаў адным з кіраўнікоў упраўлення Следчага камітэта па Мінску.*

Да гэтага прызначэння Валерый Сайкоўскі з’яўляўся адным з мноства шараговых супрацоўнікаў сярэдняга ўзроўню — начальнікам аддзела па наглядзе за выкананнем падатковага і мытнага заканадаўства пракуратуры Мінска. Але пасля справы Бяляцкага здзейсніў сапраўдны кар’ерны рывок.

Нагадаем, што 16 снежня 2011 года Савет ЕС уключыў Валерыя Сайкоўскага ў спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у Еўрапейскі Саюз.

## 33 смелых

*Именно столько минчан выразили готовность строить квартиры в первом городе-спутнике.*

Несколько месяцев назад в Мингорисполкоме сообщали, что строительство города-спутника в Смолевичах начнется вот-вот, а поселиться там уже желают около тысячи человек из числа столичных очередников. Прошло немного времени, и выяснилось: перспективы “спутника” туманны. Помимо проблем, связанных с финансированием строительства, наметилась еще одна, очевидная — люди попросту не хотят переезжать из Минска на постоянное место жительства.

Как рассказал БЕЛТА зампред Мингорисполкома **Сергей Радоман**, реальную готовность построить квартиру в Смолевичах высказали всего 33 человека. Все они стоят на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий более 20 лет.

По мнению Сергея Радомана, в перспективе спрос на жилье в Смолевичах должен увеличиться. В первую очередь это связано с вступлением в силу указа №13. Минчане, потерявшие право на льготный кредит, смогут воспользоваться им в городах с численностью населения до 20 тысяч человек (а Смолевичи как раз относятся к таковым). Правда, условия предоставления этого кредита будут такими же, как и в Минске.

*“К настоящему времени разработана проектно-сметная документация на один жилой дом,* — отметил Сергей Радоман. — *Он будет не в самих Смолевичах, а рядом с этим населенным пунктом — в микрорайоне, который в перспективе планирует застраивать Смолевичский райисполком. Имеющиеся там сети инфраструктуры позволяют построить три дома без значительных вложений в новые инженерные сети. Первый дом должны начать строить уже в марте текущего года”.*

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Попросится ли Анатолий Кулешов в отставку?

Министр внутренних дел Анатолий Кулешов за последнее время лишился сразу двух основных заместителей: **Евгений Полудень** находится в СИЗО КГБ, а **Олега Пекарского** отправили в запас с неприглядной формулировкой — *“в связи с совершением проступков, дискредитирующих звание сотрудника органов внутренних дел”.*

Приличный министр, замов которого уличили в нечистоплотности, или до последнего бы за них бился, или подал бы рапорт об отставке.

Но Кулешов отмалчивается, как будто ничего и не случилось...

НОВЫЕ ЛИЦА

# Танкист Мельченко займется общественной безопасностью

*Полковник **Николай Мельченко** занял кресло, в котором сидел Евгений Полудень.*

В августе этого года Мельченко будет отмечать 47-летие. Он родился в городе Наровля Гомельской области. Окончил Омское высшее танковое инженерное училище, Академию МВД Республики Беларусь.

В 1991—1993 годах служил в Вооруженных Силах в составе Западной группы войск.

В органах внутренних дел — с марта 1994 года.

В Октябрьском РУВД Минска прошел служебный путь от участкового инспектора милиции до замначальника райуправления — начальника МОБиСМ.

В 2000 году был переведен в центральный аппарат МВД, где служил старшим инспектором по особым поручениям отдела организации работы участковых инспекторов милиции управления профилактики Главного управления охраны правопорядка и профилактики милиции общественной безопасности и специальной милиции МВД, позже — заместителем начальника отдела организации работы УИМ.

В июле 2006-го был назначен на должность заместителя начальника управления профилактики ГУМОБиСМ. С июля 2008 года был заместителем начальника УВД Миноблисполкома — начальником милиции общественной безопасности.

11 января он назначен заместителем министра внутренних дел — начальником милиции общественной безопасности.

# Шуневича интересовала частная жизнь Андрея Санникова

*А вот первый заместитель министра внутренних дел — начальник криминальной милиции **Игорь Шуневич** до недавнего времени работал в КГБ. Редактор сайта “Хартия’97” **Наталья Радина** познакомилась с Игорем Шуневичем больше года назад — как раз в то время, когда находилась в СИЗО КГБ. Тогда полковник возглавлял управление по борьбе с коррупцией и организованной преступностью Комитета государственной безопасности.*

“Игоря Шуневича я увидела впервые в середине января в тюрьме КГБ, — *поделилась своими воспоминаниями Наталья Радина*. — Меня вызвали к нему на допрос уже после отбоя в 22.00. Формально это был не допрос, а “беседа”, так как проходила она без адвоката. Таких “бесед” в тюрьме КГБ было огромное количество, в отличие от реальных допросов с адвокатами. Адвокатов в тюрьму КГБ не пускали, и нас прессовали вот на таких “посиделках”.

Шуневич сразу заявил, что не скажет, из какого он ведомства, и очень настоятельно просил никому не рассказывать о нашей с ним “беседе”. Честно говоря, я была уверена, что он из Управления контрразведки. Допрос он проводил не в специальной комнате при СИЗО, а в кабинете начальника тюрьмы, предварительно его оттуда выдворив.

В самом начале допроса я, измотанная за день двумя такими “беседами” с оперативником и начальником тюрьмы и одним допросом со следователем, сразу заявила: “Не надо меня вербовать и требовать показаний против **Андрея Санникова** и **Дмитрия Бондаренко**!” Шуневич сказал, что уж вербовать он меня точно не собирается. И вообще, отметил он, работа сайта charter97.org интересует следователей КГБ, а его интересуют “гораздо более серьезные вещи”.

Интересовали его совершенно немыслимые вещи: связи кандидатов в президенты с Польшей, Германией и соседними Россией и Украиной. Естественно, помочь ему в этом вопросе я никак не могла...

Еще его очень интересовали аспекты частной жизни Андрея Санникова, в частности, один ужин накануне президентских выборов у бизнесмена **Павла Маринича**, на котором я присутствовала. И я тоже не поняла, почему обычный ужин вдруг превратился для сотрудников КГБ в явку заговорщиков. Скажу честно еще раз — мы просто ели плов и переворот не замышляли.

Допрашивая меня, Шуневич сказал, что уже “беседовал” с Андреем Санниковым и **Ириной Халип**.

“Мы подозреваем вмешательство внешних сил!” — сказал Игорь Шуневич во время допроса руководителю избирательного штаба Андрея Санникова **Владимиру Кобецу.** Это Володя мне рассказал, уже когда смог сбежать из Беларуси.

Игорь Шуневич был также замечен во время суда над пресс-секретарем Андрея Санникова **Александром Отрощенковым**, когда его приговорили к 4 годам колонии. Шуневич был в окружении бритоголовых людей в штатском.

Меня настораживает другое. После ночного допроса Шуневич сказал, что от его мнения будет зависеть, выйду ли я на свободу. Из СИЗО меня освободили недели через две, но не на свободу, а под подписку о невыезде до суда. Других — не освободили.

Уж не благодаря ли, в том числе, “особому мнению” Игоря Шуневича сегодня в тюрьмах остаются **Андрей Санников, Дмитрий Бондаренко и Николай Статкевич**?”

**Марина КОКТЫШ.**

БЛОКИРОВКА

# Новые автомобили подорожают на 16—20 процентов

*Таковы для рядовых белорусов первые последствия вступления страны в Таможенный союз.*

Беларусь изменила механизм уплаты налога на добавленную стоимость при ввозе автомобилей в страну. Теперь, как и в России, покупая авто в салоне, мы будем платить НДС со всей стоимости автомобиля, а не с разницы между ценой реализации и ценой приобретения автомобиля. Эксперты подсчитали, что новые машины подорожают в среднем на 16—20%.

Белорусские власти и не скрывали, что эти налоговые изменения — условия России. Указ Александра Лукашенко, который установил новый порядок уплаты НДС с ввозимых в страну авто, сопровождался официальным комментарием: мол, указ подписан *“в целях выравнивания условий налогообложения легковых автомобилей на едином рынке стран Таможенного союза и выполнения условий выделения Республике Беларусь стабилизационного кредита из средств Антикризисного фонда Евразийского экономического сообщества*”.

Что же получат рядовые белорусы, когда указ вступит в силу (ориентировочно с 24 января)?

Генеральный директор “Атлант-М” в Беларуси **Сергей Самойло** еще в ноябре прошлого года, когда только поползли слухи о том, что власти собираются отменить льготы по НДС при ввозе и реализации автомобилей на территории страны, на сайте холдинга пояснил, чем это чревато для белорусских покупателей.

Во-первых, констатировал эксперт, **подорожают все импортные автомобили — и новые, и б/у, ввезенные юридическими лицами**, — примерно на 16—20%. При этом **не имеет значения, ввезен ли автомобиль в РБ до вступления указа в силу или после**, так как НДС будет рассчитываться на дату продажи автомобиля клиенту. *“Отметим также, что НДС будет начисляться на полную стоимость автомобиля, уже увеличенную за счет импортных пошлин”,* — пояснил Сергей Самойло.

*“Небольшое снижение цен на новые автомобили может произойти в середине года*, — высказывал предположение генеральный директор холдинга “Атлант-М” в РБ. — *По всей вероятности, вступление России в ВТО приведет, ориентировочно во II квартале 2012 года, к корректировке единого таможенного тарифа в Таможенном союзе, и ставки импортных пошлин для новых легковых автомобилей уменьшатся с 30% до 25%. Однако эффект этого снижения будет гораздо меньше, чем влияние введения НДС”.*

Вероятно, новый указ Лукашенко коснется совсем небольшой категории граждан. Среди белорусов машины в салонах покупают единицы. Это дорого, а кредиты на покупку авто банки предлагают под очень высокие проценты. Дилеры не скрывали, что в 2011 году удерживать объемы продаж новых авто удавалось благодаря российским клиентам. Цены на новые авто в России и в Беларуси существенно отличались, и россияне охотно ехали за новыми авто в Беларусь. Например, цена на Audi Q5 с объемом двигателя 2.0 TFSI в Беларуси начиналась от 33 тысяч долларов, а в России — от 43 тысяч. Вероятно, этот факт позволил компании AUDI AG сообщить, что по итогам 2011 года в Беларуси наблюдался наибольший рост продаж на отдельно взятом рынке — 312%. В 2011 году в Беларуси было продано 874 новых автомобиля Audi.

Всего в прошлом году на белорусском рынке было реализовано новых импортных автомобилей, в том числе и российского производства, около 20 тысяч. Хотя эксперты говорят, что потенциал белорусского рынка продаж новых авто составляет порядка 50 и даже 60 тысяч единиц в год. Правда, при условии нормального развития экономики, без валютного кризиса, без каких-либо ограничений и при наличии приемлемых условий автокредитования. Пока же белорусам приходится “донашивать” машины, на которых не один год ездили немцы, французы, бельгийцы и даже американцы.

Каким будет автопарк белорусов через год-другой, когда эксплуатируемые сегодня подержанные иномарки еще “постареют”? На чем будут ездить рядовые белорусы?! На пути к новым авто власти уже выставили немало препятствий.

К СЛОВУ

## Есть ли польза рядовым белорусам от вступления страны в Таможенный союз?

После вступления в Таможенный союз белорусские автолюбители существенно пострадали. Сначала белорусов лишили возможности покупать подержанные иномарки, подогнав под российские тарифы размер таможенных пошлин — они стали выше в 4—10 раз. Сейчас на 16—20 процентов подорожают иномарки в салонах. Летом мы столкнулись еще с одним серьезным последствием участия в Таможенном союзе — массовым вывозом в Россию потребительских товаров, следствием чего стал дефицит мяса, молочной и другой продукции.

Но хоть в чем-то белорусы выиграли, вступив в Таможенный союз?

— Существенных плюсов для белорусов от вступления страны в этот союз я не вижу, — говорит экономист Белорусского экономического образовательного центра **Дмитрий Крук**. — Когда вступали в Таможенный союз, власти объясняли, что главный козырь для Беларуси — это снижение цены на энергоносители — на российские нефть и газ. Возможно, с точки зрения года-двух — это плюс, но с точки зрения долгосрочной перспективы — спорный вопрос. Потому что у производителей снижаются стимулы для того, чтобы повышать энергоэффективность, проводить реформы.

Еще одним плюсом называлась возможность привлечь зарубежные инвестиции. Но, как правило, инвестиции идут в большие страны, которые являются доминирующими в союзе. В нашем случае это, скорее всего, будет российский рынок.

Поступления в белорусский бюджет, которые ожидали получать от таможенного оформления на белорусской границе импортного товара, следующего в Россию, незначительные. Эти суммы небольшие, в пределах пары сотен миллионов долларов.

Скажу честно: я скептически отношусь к такому образованию, как Таможенный союз. Серьезных плюсов для нашей страны я в нем не вижу.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Хабар на паўмільёна

*На Магілёўшчыне затрыманы з доказамі злачынства старшы оперупаўнаважаны Клімавіцкага РАУС і старшы следчы Клімавіцкага раённага аддзела ўпраўлення толькі што створанага Следчага камітэта.*

Яны вымагалі ў прадпрымальніка ажно 500 тысяч долараў.

Як паведаміў БелаПАН начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Павел Траулька, шляхам шантажу і пагроз службовыя асобы ў снежні 2011 года і студзені 2012 года атрымалі каля 8 мільёнаў расійскіх рублёў за непрыцягненне асобы да крымінальнай адказнасці.

На гэтым тыдні пры атрыманні чарговай часткі грашовых сродкаў у 500 тысяч расійскіх рублёў міліцыянеры былі затрыманы з доказамі злачынства. Устаноўлена, што ў злачынную групу ўваходзіў таксама начальнік Клімавіцкага РАУС.

Старшынёй Следчага камітэта ў дачыненні да гэтых афіцэраў міліцыі распачата справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры).

Дарэчы, гэта не першы падобны скандал у Клімавіцкім раёне. Некалькі гадоў таму тут былі асуджаны і старшыня райвыканкама, і кіраўнік мясцовай міліцыі.

ПАЛІТКУХНЯ

## Мінюст адмовіў у рэгістрацыі БХД

*“Дакументы былі аформлены неналежным чынам”*, — заявіў журналістам міністр юстыцыі **Алег Сліжэўскі.**

Міністр паведаміў, што ў пададзеных для рэгістрацыі дакументах БХД быў выяўлены шэраг парушэнняў. У прыватнасці, ва ўстаноўчых дакументах, спісах заснавальнікаў партыі ды і самі дакументы нібыта не былі аформлены належным чынам.

*“З прычыны гэтага ў адпаведнасці з заканадаўствам Міністэрства юстыцыі вымушана было прыняць рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі БХД”*, — адзначыў Алег Сліжэўскі.

Гэта была чацвёртая спроба рэгістрацыі партыі. Ва ўсіх выпадках Мінюст адмаўляў у рэгістрацыі арганізацыі, спробы абскардзіць гэта рашэнне ў Вярхоўным судзе поспеху не мелі.

## Віталь РЫМАШЭЎСКІ: «Мы будзем падаваць у суд на Міністэрства юстыцыі»

*“Ніякіх папер наконт нерэгістрацыі БХД мы з Мінюста пакуль не атрымлівалі, усю інфармацыю мы даведваемся ад журналістаў,* — сказаў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Віталь Рымашэўскі ў размове з карэспандэнтам “Народнай Волі”. — *Не маючы канкрэтных папер, цяжка нешта каменціраваць. Адзначу толькі, што Міністэрства юстыцыі Беларусі ў чарговы раз выступіла як рэпрэсіўны орган, які не трымаецца літары закона. Безумоўна, мы будзем падаваць на Міністэрства юстыцыі ў суд. Рашэнне аб правядзенні чарговага ўстаноўчага з’езда БХД можа быць прынята на пасяджэнні Нацыянальнай Рады. Але ці будзе гэтае рашэнне прынята, пакуль сказаць не магу”.*

ЧУЛІ?

## FEMEN: «Сушыце клюшкі!»

Да патрабаванняў перанесці правядзенне ЧС па хакеі з Беларусі ў любую краіну, дзе паважаюцца правы чалавека, далучыліся актывісткі ўкраінскага руху FEMEN.

*“Мы пачынаем маштабную кампанію “Сушыце клюшкі”. Падрабязнасці мы пакуль трымаем у таямніцы, але гэта будзе магутна, гэта будзе нязручна і балюча для беларускіх чыноўнікаў. Мы зробім усё, каб сусветная грамадскасць ведала, што адбываецца ў Беларусі. Ніякага чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі не будзе”,* — заявіла БелаПАН кіраўнік руху Ганна Гуцол.

Каментуючы пастанову Ельскага РАУС аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце інцыдэнту з актывісткамі ўкраінскага руху FEMEN, Гуцол сказала: *“Мы не здзіўлены. Упэўнены, што належнага расследавання не праводзілася. З нашымі дзяўчынамі не звязваліся, прадаставіць медыцынскія заключэнні па аглядзе, якія праходзілі дзяўчыны, нас таксама не прасілі. Гэта ўсё пацвярджае, што нашых дзяўчат выкрадалі спецслужбы, а міліцыя проста прыкрыла сваіх”.*

## А ў Еўропу хочацца...

Сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі **Мікалай Лазавік** заявіў, што, на яго думку, назіральнікаў АБСЕ на беларускія выбары запрашаць не трэба.

*“У мяне ўвогуле ёсць прапанова іх не запрашаць,* — заявіў Лазавік агенцтву “Інтэрфакс”. — *А калі і запрашаць, дык толькі пасля таго, як яны адменяць свае штрафныя санкцыі”.*

Нагадаем, што сакратар ЦВК разам з іншымі чыноўнікамі ўнесены ў спіс асоб, якім забаронены ўезд у краіны Еўрасаюза.

Лазавік паведаміў, што група членаў ЦВК звярталася ў Еўрасаюз з лістом, у якім запыталася, на якой падставе іх пазбавілі права ўезду ў ЕС. *“Адказ адпавядае маёй характарыстыцы еўрачыноўнікаў — “еўрадэбілізм”,* — заявіў Лазавік і працытаваў адказ, атрыманы з генеральнага сакратарыята Савета ЕС. *“Савет застаецца пры сваім меркаванні, што абмежавальныя меры супраць вас апраўданы. Члены ЦВК Бушная, Бушчык, Кісялёва, Падаляк былі ўключаны ў рашэнне Савета ЕС, якое датычыцца абмежавальных мер супраць прэзідэнта Лукашэнкі і некаторых афіцыйных асоб, па наступных падставах: “член ЦВК”*, — працытаваў Мікалай Лазавік.

*“Атрымліваецца, што сяброўства ў ЦВК з’яўляецца, на думку еўрачыноўнікаў, злачынствам. Я не магу паважаць тых еўрачыноўнікаў, якія без усякіх падстаў абмяжоўваюць правы і свабоды грамадзян толькі таму, што яны займаюць нейкую пасаду”,* — заявіў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік.

Але ці не лепей было б, каб Лазавік задаў гэтае пытанне самому сабе? Можа, тады і не трапіў бы ў “чорныя спісы”. Ён стаў неўязным у ЕС не таму, што з’яўляецца членам ЦВК, а з прычыны, якую ён добра ведае...

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## Веды робяцца ўсё даражэйшымі

Навучанне ў ВНУ Беларусі падаражэе з 1 лютага бягучага года, а памер платы плануецца вызначыць да 25 студзеня.

Пра гэта паведаміла прэс-сакратар міністра адукацыі **Юлія Ваніна.**

Паводле яе слоў, вучобу за студзень студэнты будуць аплачваць па ранейшых цэнах, а пераразлік плануецца ажыццявіць з 1 лютага. Па неафіцыйнай інфармацыі, у некаторых установах павышэнне коштаў можа дасягнуць 50 працэнтаў.

РЭГІЁНЫ

## Бочка мёду і ні лыжкі дзёгцю

*Лепшых літаратараў у Косаве прынята шанаваць граматамі і мёдам.*

Сёлета ганаровую грамату і цэлае вядро хатняга мёду атрымаў краязнаўца і празаік **Алесь Зайка**. Прыз пераможца атрымаў з рук заснавальніка прэміі — брэсцскага паэта-прадпрымальніка **Міколы Папекі.**

Мёд, які атрымліваюць лепшыя літаратары Івацэвіцкага раёна, Папека збірае на сваёй пасецы.

## Ліфт падаражэе?

*Ужо ў лютым стане вядома, ці будуць мінчане плаціць за карыстанне ліфтамі і іх абслугоўванне больш, чым іншыя грамадзяне Беларусі.*

Не выключана, што ў хуткім часе тарыфы на карыстанне сталічнымі ліфтамі павысяцца. Пра гэта паведаміў старшыня Мінгарвыканкама **Мікалай Ладуцька** на сустрэчы з працоўным калектывам ААТ “Белліфт”. Пры гэтым сталічны гораданачальнік заўважыў, што, нягледзячы на неабходнасць, павышэнне тых ці іншых камунальных тарыфаў павінна быць узважаным і абгрунтаваным.

## Загс, бібліятэка, кавярня — усё ў адным

*У бліжэйшы час ва Уздзе плануюць узвесці шматфункцыянальны комплекс з актавай залай, кавярняй, танцпляцоўкай, бібліятэкай і нават загсам.*

Новы Дом культуры патрэбны Уздзе ўжо даўно. Некалькі год таму стары будынак быў прызнаны аварыйным, і ўсе культмасавыя мерапрыемствы пераехалі ў мясцовы кінатэатр.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СУДЬБЫ ЛЮДСКИЕ

# Заработать на... смерть

*Белорусы, чтобы спастись от нищенских зарплат в родной стране, массово уезжают на заработки в Россию. Некоторые из них возвращаются домой в гробах...*

В декабре прошлого года российские информагентства сообщили о пожаре в Подмосковье: *“Первое сообщение о возгорании на территории недостроенного кинокомплекса было передано около 03.00. Пожарные, прибыв на место происшествия, обнаружили, что огонь охватил небольшую территорию площадью около 80 кв. метров. Горели бытовки, в которых проживали строители. Один из рабочих с серьезными ожогами был доставлен в местную больницу. Когда пожар был локализован и потушен, на пепелище обнаружили тела еще 6 человек. По предварительным данным, погибшие — граждане Беларуси... Известно, что строительный объект, расположенный неподалеку от Красногорска, принадлежит режиссеру Федору Бондарчуку. Владелец концерна “Главкино” поручил строительство кинопавильонов на площади 33 тыс. кв. м. строительной компании “Центр-Строй”. Кинокомплекс Бондарчука должен быть готов уже в 2012 году”.*

На то, чтобы выйти на след выжившего при пожаре белоруса и найти семьи погибших, ушло около месяца. В МИД Беларуси и белорусском посольстве в Москве такие сведения предоставлять отказались. В российской строительной организации, естественно, тоже ничего не выяснишь — “гастарбайтеры” работали нелегально. Но мы их нашли...



Самое страшное, когда родители хоронят детей.

Юрий Микулич после пожара около двух недель находился в подмосковных больницах. Сначала — в Красногорске, затем в Подольском ожоговом центре. Недавно вернулся домой. Мой собеседник затягивается сигаретой и рассказывает:

— Сам я родом из Любанского района. Учился в ПТУ, специальность была неплохая — каменщик-плиточник. В Солигорске работал в строительном управлении, жизнь повернулась так, что в последнее время пришлось отбывать наказание. После освобождения вновь надо было искать работу. Кстати, на “шабашки” в Россию я начал ездить еще в 2003 году. В Москве принимал участие в строительстве сети магазинов, под Питером какой-то коровник строили... В среднем выходило около тысячи долларов в месяц. Где у нас заработаешь такие деньги? Если 3 миллиона в райцентре получишь — уже богатый человек. Не все же в Солигорске шахтерами в забое трудятся. А когда белорусский рубль рухнул, на Россию вообще поток белорусских строителей пошел. Молодежи много. Одна “шабашка” — примерно два месяца. Заработал две тысячи “зеленых” — и домой. Такие поездки были каждый год...

В свою предновогоднюю “шабашку” Юра отправлялся вместе со знакомыми из Солигорского района — Вячеславом Брилем и Вячеславом Бураком, с которыми и раньше пересекался на стройках России. Те уехали пораньше на разведку.

— Они в Питер еще летом отправились, но затем фирма перебросила их в Подмосковье на стройку павильонов “Главкино”, — продолжает Юра. — Позвонили, коротко сказали: “Приезжай, все нормально”. В конце осени я был уже там. Переговорил с начальником строительного управления, прорабом, инженером... Контракт подписать, конечно, никто не предлагал, но об оплате договорились: 300 рублей (около 10 долларов) за отделку квадратного метра. Однако объемы у нас были большие, квадратура получалась нормальная. 15-го — аванс, в конце месяца — все остальное. Отдельно давали на питание, продукты покупали сами. Деньги почти все сразу же высылали домой, оставляя только на мелкие расходы. День был ненормированный, так что работали, пока было светло.



Юрий Микулич никогда не забудет ту страшную ночь.

Белорусы хотели уехать из Красногорска 15 декабря. Получить аванс — и домой. Но начальство попросило задержаться на пару дней: мол, надо кое-что доделать в срочном порядке, возможно, павильоны “Главкино” откроют еще до Нового года, а на открытие по приглашению Федора Бондарчука обещал приехать президент России Дмитрий Медведев.

— Это была роковая ошибка, — вздыхает Юрий Микулич. — Хотя, как говорят, знал бы прикуп... 18 декабря все было, как обычно. Поужинали, легли спать. В нашем строительном вагончике жило семеро — все жители Беларуси, но некоторые — с украинским гражданством. Вроде из Гомеля. Наш барак был соединен коридором с другим вагончиком, где и находился выход на улицу. Но накануне утром оттуда россияне уехали домой. И именно в их вагончике начался ночью пожар.

Видно, как Юра волнуется, когда снова вспоминает ту жуткую ночь. Опять закуривает, руки подрагивают...

— Я проснулся, когда почувствовал запах дыма. Кто-то закричал: “Пожар! Горим!” Все было в дыму. Рванул дверь в соседний вагончик — огнем отбросило назад. Чтобы добраться до выхода, надо было пробежать метров пять. Упал на пол, набрал кислорода... Закрыл глаза и побежал через огонь. Остальные не побежали. Может быть, побоялись. В дыму и огне вообще ничего было не разобрать. Когда выбежал на улицу, в шоковом состоянии еще пробовал выломать решетки на окнах. Их сделали, чтобы ничего не воровали. Вагончики горели, как факелы. Там был утеплитель (типа пенопласта), все вспыхнуло мгновенно. К тому же первая пожарная приехала вообще без воды, и поэтому ждали прибытия второй. В это время выскочили люди из других вагончиков. Они просто смотрели, как “догорает костер”. Никто не знал, как помочь тем, кто остался внутри. Затем приехала “скорая”, меня забрали в реанимацию, где я уже и потерял сознание. Ожоги рук, лица, дыхательных путей... Я чудом выжил. Наверное, это судьба.



Жизнь у Вячеслава Бриля только начиналась...

В больнице белоруса навещали не только следователи, но и представители строительной организации. Купили одежду, дали 20 тысяч российских рублей (меньше 700 долларов) компенсации.

*“На большее рассчитывать, наверное, не приходится*, — говорит Юра. — *Мы же — нелегалы, в суд не подашь. Но больше на “шабашки” не поеду. С меня хватило...”*

Деревня Большой Рожан находится в Солигорском районе. Именно отсюда отправился на свои последние заработки в Россию 31-летний Вячеслав Бриль. Дом, где живут его родители, односельчане мне показывают сразу.

Родители Славы — Вера Анатольевна и Степан Иванович — оказываются дома. Они уже пенсионеры. Казалось бы, живи и радуйся внукам...

— Мама больная, она после инсульта, — рассказывает мне брат Вячеслава, Сергей. — Все сидит возле фотографии Славика и плачет.

На столе в зале фото Вячеслава с черной лентой, рюмка водки, хлеб, мед, свеча, пара сигарет. Возле стола на диване сидит заплаканная Вера Анатольевна.

— 7 февраля Славке будет 32 года, — она говорит о сыне в настоящем времени. — У нас пятеро детей было, но 15 лет назад тоже трагически погиб старший сын Саша. Разбился на мотоцикле. Остался младшенький и две дочки. Как все это матери пережить?..

Степан Иванович успокаивает супругу и рассказывает мне:

— Славка в школе на пятерки не учился, но и двойки не приносил. У него, может быть, к учебе не было таких уж способностей, но зато в хозяйстве все умел. И за конем походить, и корове накосить... В технике хорошо разбирался, закончил курсы трактористов. Работал в ЖКХ в Красной Слободе, крановщиком, бульдозеристом на рудниках в Солигорске. Затем на какую-то фирму устроился. Но что такое 1,5—2 миллиона для города? Трудно найти работу с хорошей зарплатой, чтобы достойно обеспечивать семью. С женой у сына не сложилось, разошлись, а вот в 6-летней дочурке он просто души не чаял. Постоянно говорил: “В доску разобьюсь, а дочке денег заработаю”.

— Понабирает ей всего, когда приедет к нам, — добавляет Вера Анатольевна. — Я говорю: “Славка, она все поразбрасывает”, а он: “Мама, пусть ест. Это моя дочка, и мне для нее ничего не жалко”. Он приезжал после заработков и одевал дочку с ног до головы. И внучку нашу, довольную, в гости привозил. Та прямо светилась от радости, говорила: “Баба, ты моя любочка, я тебя так люблю! И папку люблю, он мне в России денег заработал, одежду купил, и сейчас я самая красивая...”

Последний раз родители видели сына летом, перед его отъездом в Санкт-Петербург. Позже он позвонил, сообщил, что переехал в Подмосковье. А затем был звонок из милиции: *“По предварительным данным, ваш сын трагически погиб в Подмосковье. Нужно ехать на опознание...”*

— Сергей с зятем отправились в Россию, — вспоминает Степан Иванович. — Рассказывали затем, что опознать было сложно. У Славы полностью сгорели руки и часть головы. Некоторые строители в том же морге вообще лежали без голов. Чтобы опознать, делали экспертизу. Привезли сюда на машине, которую заказали в Солигорске. Россияне дали денег на похороны, но только за перевоз тела пришлось заплатить около 6 миллионов рублей. Похоронили, друзья и одноклассники несли сына на руках до самого кладбища. 21 января будет сорок дней, как его не стало.

...На кладбище могилка Вячеслава Бриля самая свежая. Вера Анатольевна аккуратно поправляет ленточки, смахивая со щеки снег и слезы. *“Мы скоро встретимся с тобой, сыночек*, — снова плачет она. — *Господи, как тяжело!..”*

**Алесь СИВЫЙ.**

*Солигорский район.*

### КСТАТИ

*По данным Департамента по гражданству и миграции МВД Беларуси, в январе—сентябре 2011 года за пределы страны с целью трудоустройства выехало более 4,5 тысячи человек (за такой же период 2010-го — чуть более 4 тысяч).*

*Это официальная статистика, которая не фиксирует факты самостоятельного выезда. В одной только России, как сообщает Федеральная миграционная служба страны, работает около 50 тысяч белорусов. А в целом, по оценкам экспертов, ежегодно трудоустраивается за рубежом около 150 тысяч наших граждан. Хотя и эта цифра, скорее всего, занижена.*

У ТЭМУ

# Прыгоды пінчука ў расійскім «раі»

Герою гэтай гісторыі на ўласнай шкуры давялося адчуць усю “любоў” “старэйшых братоў” да беларусаў на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Пачалося ўсё з таго, што адзін знаёмы расказаў яму, што быў у Калінінградзе, працаваў там на маналітных працах і быццам бы добра зарабіў. Прапанаваў з’ездзіць на будоўлю.

18 кастрычніка 2011 года наш герой разам з 10 пінчукамі і 25 брэстаўчанамі прыбыў у Калінінград. У інтэрнаце на вуліцы Вагонабудаўнікоў іх сустрэў брыгадзір і пачаў рассяляць у пакоі, прыкладна па шэсць чалавек. Некаторыя пакоі, як высветлілася пазней, былі заражаны грыбком, кішэлі насякомымі.

Разам з беларусамі ў інтэрнаце жылі таджыкі. Беларусаў адразу папярэдзілі, каб з інтэрната па адным не выходзілі, бо, здаралася, мясцовыя нацысты збівалі людзей.

На наступны дзень пасля засялення выдалі спецвопратку і павялі на аб’ект (соевы завод). Працавалі па 10 гадзін, у тым ліку і ноччу, без выхадных.

Я прарабіў да 16 снежня. У выніку атрымаў 1000 долараў. Больш за 300 з іх пайшло на харчаванне, квіток на самалёт туды і назад — 60 еўра + 130 долараў. Заробак пастаянна затрымлівалі і прыходзілася галадаць па трое сутак. Можаце не паверыць, але пахудзеў на 20 кілаграмаў.

У інтэрнаце, каб памыцца, трэба было паспець у першую чаргу, бо пасля 10 чалавек у бойлеры заканчвалася гарачая вада і трэба было чакаць некалькі гадзін, калі яна з’явіцца, ці мыцца халоднай.

Яшчэ быў адзін выпадак, які яскрава паказаў стаўленне расіян да нас, беларусаў, як да быдла. Атрымаўшы траўму на працы, звярнуўся да доктара па дапамогу. Але ён сказаў, што ў мяне няма страхавога поліса, медкарты і рэгістрацыі, а таму трэба плаціць. Грошай у мяне якраз не было, і мне проста паказалі на дзверы. Дзякуй Богу, траўма аказалася не цяжкай і праз два дні я зноў пайшоў на працу. Адпаведна, за гэтыя дні мне не заплацілі.

За тыдзень да ад’езду высветлілася, што ў нас была і рэгістрацыя, і дамовы на працу, з якіх мы са здзіўленнем даведаліся, што павінны атрымаць па 6,5 тысячы расійскіх рублёў. Значыць, фармальна нам маглі столькі заплаціць і адправіць дахаты.

На пытанне, чаму так мала яны нам заплацілі за цяжкую працу, расіяне сказалі, што ведаюць сітуацыю ў Беларусі, што, маўляў, “дома вы і гэтых грошай не заробіце”, што такіх, як мы, — тысячы, прыедуць і будуць працаваць за такую плату.

Так, дажыліся беларусы, у парабкі вярбуюцца да расіян. А ці ж зломкі мы? Ці ж не давялі нас да такой долі нашы ўлады?

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ.**

МНЕНИЕ

# Обманывая людей, дела в стране не поправишь...

Государственное телевидение, официальные газеты не перестают убеждать белорусов, что они живут в самой лучшей стране. Мол, у нас на самый высокий уровень поставлено здравоохранение, самая низкая детская смертность. Подчеркивается, что по образованности население Беларуси превосходит даже некоторые высокоразвитые западные страны. Да вот закавыка — сильно отстаем мы по показателю смертности, т.е. мало живут именно взрослые белорусы, что мешает легко и обоснованно увеличить пенсионный возраст.

Парадокс какой-то: умные, развитые и образованные люди, а живут мало. Выходит, горе от ума? И если это так, то что-то неладно в нашем отечестве, ведь долго живут люди, уверенные в сегодняшнем и завтрашнем дне.

Специалисты утверждают, что здоровье человека и продолжительность его жизни во многом зависят от его психического состояния. Любой гражданин испытывает стресс, когда его обманывают, когда не оправдываются надежды. К мощному стрессу приводит ограбление и — вдвойне, если ограбление исходит от государства. Циничным и обидным ограблением является девальвация в начале перестройки и в минувшем, 2011 году. Люди лишились сбережений, зарплат, разорились многие предприниматели, и этот стресс, безусловно, привел к всплеску сердечно-сосудистых заболеваний, увеличению числа инфарктов, инсультов, онкологических и других болезней.

Более циничным и оскорбительным является объяснение людям, потерявшим вклады, что это благо для экономики нашей любимой Родины. А что можно говорить о совести чиновников, призывавших в мае—августе прошлого года не скупать валюту, поскольку евро и доллары рухнут еще быстрее, чем белорусский рубль!

В Конституции есть статья 44, которая гласит: “Собственность, приобретенная законным способом, защищается государством. Государство поощряет и охраняет сбережения граждан, создает гарантии возврата вкладов”. А что в жизни? Сколько денег пропало у людей, которые, поверив государству, хранили сбережения в банках? Сколько ни требуют вернуть кровно заработанное — власть как будто и не слышит. Опять — стрессовая ситуация.

Вот почему для исполнения конституционной статьи 45, гарантирующей право граждан на охрану здоровья с помощью физкультуры и спорта, необходимо в кратчайшие сроки принять закон по защите граждан от стрессовых ситуаций, вызванных психо-моральным и материальным их угнетением.

Как-то во время ажиотажа с валютой мне пришлось встретиться с заведующей одним из филиалов “Беларусбанка”. Я ей предложил, чтобы для защиты вкладов от инфляции в договоре указывалась сумма в инвалюте (например, в долларах) по курсу на день открытия счета. При закрытии счета вкладчик должен иметь право на выбор: либо получить свой возросший по процентам вклад в белорусских рублях, либо указанную в договоре сумму в долларах (пусть и без процентов), если вклад оказался съеденным инфляцией. При этом выигрыш двойной: возрастет количество вкладчиков, прекратится ажиотаж с валютой, уменьшится отток рублей из банков. Завфилиалом заявила категорично: “Банк на это не пойдет”. Если наши банкиры не верят в белорусский рубль, тогда зачем удивляться неверию граждан в рубль и лгать им? Таким образом, обман вкладчиков разрешен и даже предусмотрен указами и законами Республики Беларусь.

В своем выступлении в последний августовский день Александр Лукашенко предложил банкам обменивать рубли на доллары для вкладов непосредственно на месте, не гоняя людей в обменники. Это не панацея. Во время девальвации в 2009 году такой обмен практиковался. Привел он к тому, что возросло количество валюты на вкладах населения, но не возросло ее количество в натуре в отделениях банков, в которых открывались эти валютные вклады. Таким образом, мнение о том, что у населения много инвалюты, ложное. Необходимо провести инвентаризацию инвалюты в банках, чтобы узнать, сколько валюты на счетах у населения и предприятий, сколько выдано по кредитам и сколько в наличии у банков. Не исключено, что Беларусь живет на виртуальной валюте, что и подтолкнуло к девальвации.

Можно найти и другие способы установления доверия к белорусскому рублю и защиты сбережений граждан от инфляции и девальвации, например, путем введения белорусского инвалютного рубля, как было при Советах. Введение инвалютного рубля равносильно введению ценных бумаг, и это позволит не только поднять доверие к белорусскому рублю, но и сократить эмиссию. При закрытии счета выплачивать вклад в рублях по курсу валюты (доллара) на день его выплаты. А лучше в одном договоре определять первоначальное количество валюты (как выше сказано), количество инвалютных рублей с соответствующим инвалютным процентом по вкладу и количество белорусских рублей и депозитный белорусский процент по ним. Вот тогда рубль будет иметь степени защиты.

Рубль должен укрепляться и становиться дороже инвалюты, тогда он действительно будет защищен от колебаний и обвала инвалюты, а не падать вместе с ней. Это возможно при снижении рублевых цен. Т.е. при повышении производительности труда следует снижать цены на товары и услуги, а не повышать бездумно зарплату и таким образом оплачивать эмиссию не только рубля, но и инвалюты. При свободном хождении валюты целесообразно выплачивать зарплату работникам предприятий-экспортеров в заработанной инвалюте. Чтобы купить еду за рубли, они будут вынуждены обменять свою валюту в банках. Т.е. заработанную валюту должны сдавать в банки не только предприятия, но и их работники.

И если у правительства нет способов гарантированного укрепления и защиты белорусского рубля, то его членам следует либо подать в отставку в связи с нарушением статьи 44 Конституции (добровольно, по совести), либо отказаться от своего рубля. Некоторые считают, что отказ от собственной валюты приведет к потере суверенитета. Но и сегодня он во многом сомнителен. Различная челядь и банкиры наживаются на девальвации. Те, кто имел доступ к валюте, покупали доллары в банке и при их продаже на черном рынке за счет разницы курсов имели огромный навар. Что это за суверенитет, когда при девальвации основная масса народа расплачивается мозолями, едой и здоровьем, а небольшая кучка прикорытников бессовестно наживается?

Своевременное принятие мер по защите рубля, который обязан выражать действительные результаты труда, и защите реальных (действительных, а не липовых, инфляционных) сбережений граждан Беларуси освободит их от стрессов, укрепит здоровье и, безусловно, поднимет их доверие к руководству страны, притом без пропаганды.

**Роман РУДКОВСКИЙ,**
**житель Минска.**

ТАК ДУМАЮ!

## *Развитой социализм — для кого?*

Развитой социализм, объявленный когда-то Брежневым, закончился для народа выдачей талонов на продукты питания. В наше время “белорусская модель” уверенно и быстро привела нас к рекордной девальвации. В чем тут разница? А ее-то заметить трудно, легче найти сходство. Все те же дутые цифры, все та же победная эйфория, все тот же правильный непоколебимый курс, по “воле народа” выбранный вождем.

Впрочем, много уже прибавилось к тому, что было раньше. Брежневу и его тогдашним министрам такое и не снилось. Хотя по тем временам они жили не безбедно, но по сравнению с нынешними уж очень скромно. Любой теперешний наш министр даст фору двум брежневским!

Время идет, времена меняются. Только для простого народа мало что изменилось. То талоны, то купоны, то инфляция, то девальвация. Прибавилось только название разных бед. Одно надо признать, что развитой социализм для чиновников и начальников можно считать состоявшимся.

**В.М.ПОТЕМКИН.**

*Могилев.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Памяць пра продкаў-герояў на мяжы знікнення

Мінула амаль два месяцы з часу дзвюх падзей у жыцці нашага горада, але яны не даюць мне спакою — такімі процілеглымі былі адносна іх пазіцыі жыхароў.

Спачатку аб першай — выставе элітных кошак, якую прывезлі сюды з Бабруйска ў будынак краязнаўчага музея. То была апошняя субота лістапада, у праваслаўных цэрквах вернікі паміналі сваіх родных і блізкіх, што адышлі ў іншы свет. А да касы музея цягнулася доўгая чарга за квіткамі. Уваход на выставу каштаваў сем тысяч рублёў для дарослых і тры — для дзяцей. Наведала яе аж паўтары тысячы чалавек!

Не, я зусім не супраць падобных пазнавальна-забаўляльных выстаў. Але падзея гэта была б не вартай увагі чытачоў, калі б на наступны дзень, у нядзелю 27 лістапада, з нагоды 91-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну якраз сюды, да будынка ўжо згаданага музея, дзе перад гістарычным паўстаннем знаходзіўся штаб арганізатараў, не прыехала з Мінска на трох аўтобусах вялікая сумесная дэлегацыя ад дзвюх партый БНФ (упершыню за многія гады яны разам ладзілі мерапрыемства). Прыехалі яны на мітынг, дазвол на правядзенне якога загадзя даў Мінскі аблвыканкам.

Сталічных гасцей (а іх было каля 150) здзівіла, што на мітынг прыйшло так мала мясцовых жыхароў: іх было каля дваццаці чалавек, ды падаспела яшчэ некалькі маладзёнаў з Салігорска. Тутэйшая інтэлігенцыя — настаўнікі, работнікі ўстаноў культуры, якія павінны лепш за іншых ведаць і шанаваць гісторыю сваёй Случчыны, — праігнаравала ўгодкі слаўнай падзеі. Падумаў толькі: 10 тысяч лепшых сыноў гэтай зямлі пайшлі свядома на смерць, каб жыла незалежная Беларусь вольнай і шчаслівай, без бальшавіцкай улады, якая паспела на той час ужо аддаць Польшчы палову Беларусі, а Расіі — Віцебскую і Магілёўскую губерні. Не прыйшлі сюды, вядома, і тыя паўтары тысячы чалавек, што напярэдадні тоўпіліся на выставе кошак...

Чаму яны не схацелі ўбачыць нашы святыя нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі, транспаранты на роднай мове, паслухаць расповеды аб земляках-героях, праспяваць з усімі духоўны гімн беларусаў “Магутны Божа”? Збаяліся? Мяркую, сёння многія жывуць у страху, усяго баяцца, а таму і застаюцца глухія і сляпыя да покліч нашай гістарычнай спадчыны. Іх не ўскалыхваюць памяць і прыклады мужных продкаў, хаця напярэдадні мітынгу ў мясцовых газетах былі змешчаны дакладныя абвесткі аб падзеі. Колькасць чытачоў гэтых газет перавышае 15 тысяч....

Але нашым уладам якраз і патрэбны такія глухія, маўклівыя, запалоханыя. Такія, хто, зразумела, не супраць лепшага жыцця, але лічаць: хай для іх яго здабываюць іншыя. Так і апынулася памяць продкаў на мяжы знікнення. А без гэтай памяці нам не здабыць светлую будучыню Бацькаўшчыны.

**Алесь КАРНІЦКІ,**
**жыхар г.Слуцка.**

БОЛЬ

# А новае так і не пабудуем

Паважаная рэдакцыя “Народнай Волі”!

З вялікай цікавасцю прачытаў успаміны графіні Вольгі Храптовіч-Буцянёвай. Я нарадзіўся ў тых мясцінах, у вёсцы Краскоўскія Горы, хадзіў у Шчорсаўскую сярэднюю школу. З 5-га па 10-ы клас заняткі праходзілі ў памяшканнях былой бібліятэкі і адміністрацыі ўладароў маёнтка. Наш тата, Павел Ягоравіч Цярэшка, пражыў доўгае і цікавае жыццё (1907—2009), ён добра ведаў сям’ю графа. Быў сведкам і ўдзельнікам падзей, што адбываліся ў той час. Двойчы сядзеў у польскай турме. З нашай мясцовасці ў 1932 годзе з-за пагрозы арышту таемна прабраліся праз мяжу ў Савецкі Саюз больш за 30 чалавек — члены КПЗБ і камсамольцы, якія асабліва верылі ў “савецкі рай”. Вярнуліся назад толькі двое. Яны нікому нічога не расказвалі аб лёсе сваіх таварышаў. І толькі пасля “хрушчоўскай адлігі” вяскоўцы пачалі пакрысе даведвацца аб блізкіх — “ворагах народа”, як іх называлі і каралі тыя, каму яны свята верылі.

Татаў брат, Андрэй, прабыў у так званым “каранціне” каля Навасібірска пяць гадоў. А потым, ужо ва Украіне ў 1937 годзе, быў зноў арыштаваны і ў 1938-м расстраляны як “польскі шпіён”. Аб лёсе другога стрыечнага брата, Антона, я даведаўся нядаўна, з інтэрнэта. Яго таксама расстралялі — у 1937 годзе ў Цюменскай вобласці як члена “Польскай арганізацыі вайсковай”. Тыя ж вяскоўцы, хто заставаўся дома і нікуды не перабягаў, атрымалі ад польскіх улад усяго па некалькі месяцаў турмы і былі адпушчаны пад нагляд паліцыі.

Тата добра адгукаўся пра сям’ю графа Храптовіча. Расказваў пра іхняга сваяка, князя Трубяцкога, які жыў у Маскве, а на пачатку Першай сусветнай вайны трапіў у палон да немцаў, быў адпушчаны і жыў у нашай мясцовасці.

Мне вельмі хацелася б прачытаць працяг успамінаў Вольгі Храптовіч-Буцянёвай “Наваградак” і “Казахстан”. У Казахстане мне давялося працаваць пасля заканчэння вучобы. Там лёс зводзіў мяне з многімі “ворагамі народа” розных нацыянальнасцяў (немцы, татары, чачэнцы, інгушы, карэйцы, уйгуры, шмат было беларусаў і ўкраінцаў).

У 1970 годзе пазнаёміўся з жанчынай, лёс якой падобны да лёсу графіні Храптовіч-Буцянёвай. Караліна Марцынкевіч працавала ў міжваенны час медсястрой у Івянцы. У 1939 годзе была вывезена на Усход. А потым трапіла ў армію Андэрса, ваявала з гітлераўцамі ў Афрыцы і Італіі. Пасля вайны пасялілася ў Беластоку.

Тата шмат расказваў пра гісторыю нашых мясцін. У Першую сусветную вайну тут два гады стаяў фронт. Частка людзей апынулася на ўсходзе, а большая частка — на захадзе ад франтавой лініі. Людзей з прыфрантавой тэрыторыі выселілі, пабудовы іх разабралі на ўмацаванні. Потым пайшлі немцы, потым бальшавікі, потым палякі, потым зноў бальшавікі — і зноў палякі. Людзям вельмі цяжка было жыць і арыентавацца ў такіх зменлівых варунках.

...Тата змалку застаўся сіратою. Яму было два гады, калі памёр бацька. А ў 10 гадоў застаўся без маці. Чатыры браты, шукаючы паратунку, хадзілі на заробкі ў маёнтак, капалі меліярацыйныя канавы, будавалі дарогі і масты.

У 1939 годзе, калі зноў прыйшлі бальшавікі, колькі ўсякіх падзей адбывалася! Расстрэльвалі асаднікаў, ішлі арышты былых польскіх службоўцаў. І ўзяліся за стварэнне калгасаў, але хутка пачалася вайна. У Чырвоную Армію забраць вясковых мужчын не паспелі — немцы былі ўжо пад Мінскам.

Зноў — расстрэлы. Так немцы ўсталёўвалі свой “парадак”. Спакою ніхто не меў. Днём — паліцаі, ноччу — партызаны налятАлі на хаты. Пры адступленні немцаў людзі ўцяклі ў лес. Палавіну вёскі спалілі ўласаўцы. Каго з жыхароў лавілі — расстрэльвалі...

Мы вярнуліся з лесу на папялішча. Бацьку забралі ў армію, маці з трыма дзецьмі засталася на гаспадарцы. Арала, сеяла, касіла. Гора хапіла і старым, і малым. На шчасце, з фронту вярнуўся бацька. Пачалі будаваць хату. Працавалі, як рабы, свету божага не бачылі. Ды і далей было мала радасці. А ўжо цяпер... Кожны дзень тлумяць галаву пра тое, як нам быццам добра жывецца. Толькі каму — добра? Старое зруйнавалі, новае ніяк не пабудуем...

**З павагай —**

**Уладзімір Паўлавіч ЦЯРЭШКА,**
**пенсіянер, 70 гадоў.**

## *Карнеева дамоўка*

Нехта сказаў, што дом падобны на свайго гаспадара. Вунь у Вішнёўцы жыве Фама. (У вёсцы яго імя вымаўляюць Хама — на мясцовы манер.) Хата ў яго выдатна складавана. Вароты пафарбаваны ў адмысловы зялёны колер (колер жыцця). Хама, хоць ужо і ў гадах, не лянуецца іншы раз узабрацца на дах ды пафарбаваць бялюткай вапнай два коміны.

— Каб чалавеку вока весяліла, — іншы раз тлумачыў ён, калі хто з вішнёўцаў цікавіўся, навошта ён пэцкае тыя коміны.

А вось Карней з Вішнякоў (таксама — залатыя рукі ў чалавека былі) доўгі час не адыходзіў ад слясарнага варштата: усё габляваў сасновыя дошкі, нават іншы раз нюхаў іх смалісты пах. Жонка часам нават непакоілася: можа, што з галавою ў старога сталася? Сама ж нядаўна бачыла па тэлевізары, як адна нямоглая старая ў дамашнім халаце і тэпцях села ў цягнік і прыехала з Кіева аж у Маскву. І ніхто не пацікавіўся, куды жанчына едзе і да каго... Можа, і ў Карнея глузды не ў той бок паехалі?

— Што гэта ты ўсё майструеш? — прыставала яна.

— Сабе дамоўку.

— Якую дамоўку? Здзяцінеў, мусіць? Вунь жа твая дамоўка, — паказала яна на даволі-такі раскірэчаную ад часу і недагляду хату.

— Вечную. Вечную дамоўку, старая. Не перашкаджай.

Праз нейкі час паглядзець на тую Карнееву “дамоўку” зайшоў і вішнякоўскі Хама.

Даведаўшыся, што Карней вырашыў загадзя зрабіць сабе дамавіну, пацікавіўся:

— А ты хоць мерку з сябе прыкідваў?

— А што? Я вунь на два-тры пальцы допуск зрабіў. Тады, як саб’ю, лягу — прымеру. Думаю, у самы раз будзе.

Хама, відаць, прагаварыўся вяскоўцам, бо пасля і яшчэ колькі чалавек прыходзілі падзівіцца на Карнееву работу. А ён, каб лішне не кідалася ў вочы, адвалок сваю “дамоўку” на гарышча хаты. І ўжо там дафарбоўваў дошкі. (Заадно пабяліў ляжак да грубкі, бо з вясны належ прыезджы з раёна пажарнік, каб, крый Бог, не здарыўся пажар.)

Вечарам, лежачы ў ложку (ліхтары на вясковай вуліцы даўно ўжо не запальваліся — з-за эканоміі), Карней уголас разважаў:

— Паміраць жа ўсё роўна трэба. Не сёння, дык заўтра. А так — меней клопатаў і табе будзе, старая, і дзецям нашым... Хіба не бачыш? Наша ж Вішнёўка ўвачавідкі і сама памірае. Ці не так?

— Так, так, Карнейка, памірае, — уздыхала жонка.

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**
*Гомель.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Мая пазіцыя засталася нязменнай

Шаноўны Іосіф Паўлавіч!

Дасылаю Вам колькі вершаў, напісаных у розныя перыяды майго жыцця. Калі палічыце вартым змясціць іх у “Народнай Волі”, то надрукуйце. Калі не, дык не пакрыўджуся.

Коратка пра сябе. Беларус. Нарадзіўся 3 чэрвеня 1941 года. Ранняе дзяцінства прыпала на ваеннае ліхалецце. У 1959 годзе скончыў школу рабочай моладзі ў г.п.Круглае і выврваўся з калгаснага рабства. З’ехаў у Казахстан, працаваў амаль дзесяць год у геолагаразведвальных партыях горнарабочым, радыёметрыстам, буравым майстрам, а потым цесляром-бетоншчыкам у Крывым Рогу ва Украіне, праходчыкам “Кіеўметрабуда”, слесарам на заводзе ў г.Новачаркаску.

Так што жыццё ведаю з усіх бакоў. Гэта і падштурхнула мяне пайсці ў журналістыку. Пачынаў у круглянскай газеце (г.п.Круглае Магілёўскай вобласці), а мусіў сысці з любімай працы ў 1983 годзе, калі, будучы рэдактарам “раёнкі” ў Мсціславе, не знайшоў паразумення з тагачасным першым сакратаром райкама КПБ Пятром Катушкіным (ён зараз працуе ў Адміністрацыі прэзідэнта).

І з пасады галоўнага спецыяліста Смалявіцкага раённага Савета дэпутатаў мяне “сышлі” за мае погляды “бэнээфаўца”, хаця насамрэч я ніколі не быў у БНФ. Але мая жыццёвая пазіцыя і філасофія, стаўленне да ўсяго не змяніліся, яны адлюстраваны ў маіх вершах. Раней я пісаў па-руску, аднак у апошнія гады перавагу аддаю роднай беларускай мове.

Нягледзячы на ўзрост, імкнуся не заставацца ў баку ад падзей, якія адбываюцца ў краіне. Падчас выбарчай кампаніі 2010 года ўваходзіў у склад ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты, збіраў подпісы за Саннікава, Някляева, Статкевіча, Уса. Быў доўгатэрміновым назіральнікам за выбарамі ў горадзе і раёне ад ГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт”.

На заканчэнне свайго ліста зазначу, што маімі добрымі сябрамі-аднадумцамі з’яўляюцца Зоя Дзмітрыеўна Іванова, Уладзімір Бацяноўскі, Эдуард Тобін, Валерый Костка — годныя, разумныя людзі, прозвішчы якіх ды і яны самі “Народнай Волі” добра знаёмыя.

**З павагай —**

**Генадзь НІКАЛАЕЎ.**

*г.Смалявічы.*

## KREDO

*Бег імклівы жыцця запаволіць*
*Немагчыма па волі людзей,*
*І жыве бальшыня з нас ў палоне*
*Дзіўных мараў ды марных надзей.*

*Хтосьці скажа, што ў Бога дзён многа*
*Дык спяшацца не трэба, тады*
*Будзе значна даўжэйшай дарога*
*Па жыцці ад няспешнай хады.*

*А другі яшчэ мусіць дабавіць:*
*Трэба жыць, як ў жыцці набяжыць.*
*Шчыра кажучы, жыць так на справе*
*Раўназначна таму, што не жыць.*

*Мне, бывае, такое прысніцца:*
*Ноч, цягнік...і за ім наўздагон*
*Я бягу, каб паспець ухапіцца*
*Ды ускочыць у апошні вагон.*

*Можна сны палічыць за пустое,*
*Ў іх не верыць, а можа, — як знаць, —*
*У сабе яны штосьці ўсё ж тояць,*
*Падаюць нам аднекуль свой знак.*

*І пакуль небыццё не паўстала*
*Да адведзенай лёсам мяжы,*
*Не прымаючы згаданых правіл,*
*Я спяшаюсь напоўніцу жыць.*

*Жыць не толькі прыстойна, а й годна*
*І краіну сваю так любіць,*
*Каб яна стала ўрэшце свабоднай,*
*Каб было ўсім нам вольна ў ёй жыць.*

*Часам ў плыні чужога адчаю*
*Я бяру на сябе чыйсьці боль,*
*Як алхімік, тады спалучаю*
*Ў сэрцы крыўду і праўды агонь.*

## МЕТАМАРФОЗЫ

### Жывёльны інстынкт

*Пры ўладзе цёплае меў месца,*
*Хоць д’яблу быў гатоў служыць.*
*Жыў для таго, каб смачна есці,*
*Ды й еў жа, ведама, каб жыць.*

### У палоне амбіцый

*Уславіўшы клазет з імпэтам,*
*Ён залічыў сябе ў паэты.*
*Ды як той творца ні стараўся,*
*Усё ж графаманам ён застаўся.*

### Антыгерой

*Ён зорак з неба не хапаў,*
*Але й памкненняў не хаваў.*
*Ў халуйстве так ірваў гужы,*
*Што хутка... зорку заслужыў.*

БЫЛО...

## *Чакаем працягу!*

Паважаная рэдакцыя газеты “Народная Воля”!

Нас, жыхароў вёскі Шчорсы, глыбока ўсхвалявала надрукаваная ў Вашай газеце першая частка кнігі Вольгі Храптовіч-Буцянёвай “Шчорсы”. З болем і сумам, з вялікай зацікаўленасцю чыталі мы яе споведзь.

Некаторыя эпізоды з жыцця графскай сям’і мы ведаем, а тут — усё да дробязяў... Мы і не здагадваліся, што графіня Вольга такая слаўная, таленавітая, разумная і мудрая жанчына з паэтычнай душой і пісьменніцкім дарам.

Газета пайшла па руках, размнажалі яе на ксераксе. З нецярплівасцю чакаем працягу! Будзем бязмежна ўдзячны Вам.

З павагаю ад імя жыхароў нашай вёскі —

**г.і.СВЯКЛО.**

*Навагрудскі раён.*

З НАТУРЫ

## *Смех скрозь слёзы*

*Сустракаюцца сябры.*
*— Як справы, што навага?*
*— Якія тут справы?*
*— А навіны?*
*— А навіны — як з дамавіны.*

**Запісаў**
**Яўген ГУЧОК.**

ЛИЧНЫЙ ОПЫТ

# «Победительницы»

Накануне Нового года мой приятель делал предновогодние покупки в Ждановичах. Когда подошло время возвращаться домой, в центр Минска, купил билет на комфортабельный экспресс, изготовленный за рубежом, и стал дожидаться поезда. И вдруг узнает: раньше ЭПГ придет обычная электричка. Решил: зачем терять время, да еще перед Новым годом? На улице темно, холод начал пробирать. Не раздумывая, сел в обычный состав. В вагоне просторно, дремлют всего несколько пассажиров. Спокойно проехал пару остановок. Но вот зашли две женщины в форме железнодорожных контролеров, требуют билет. Мужчина предъявил документ. Посмотрев на него, проверяющие взвыли: вы заяц! Озадаченный пассажир удивился: я купил билет, который дороже билета в обычной электричке. В чем мое нарушение? Оказалось, есть нарушение, да еще какое! Экспресс движется по городским линиям, а обычная электричка — по другим, хотя рельсы под ними одни и те же. Простому человеку не понять такой крутой головоломки. Он даже знать о ней не знает, как и большинство пассажиров, совершающих рейс на зарубежной новинке и в обычном железнодорожном транспорте. Причем никто не растолковывает, не дает информации по данному вопросу. То есть поступай по совету некогда популярной песенки: милый мой, хороший, догадайся сам.



Но пассажир, ехавший вечерней электричкой 29 декабря, не догадался и попался. Пожилая контролерша, железная, как весь железнодорожный транспорт, сурово потребовала: платите штраф 18 тысяч 200 рублей! Сидевшие рядом пассажиры ахнули: за что? Человек проехал всего две остановки, он знать не знал о ваших “новациях”. И если пассажир в первый раз нарушил, то растолкуйте ему и передайте своему начальству, что существует проблема и ее надо решать через билетные кассы, через информационную сеть. Ведь в такой ситуации могут оказаться тысячи людей. Но контролеры “не слышали”, они сидели, как глухонемые, и все писали и писали штрафную реляцию. Даже напоминание, что перед Новым годом все грехи прощаются, не подействовало на них. Собственно, и пассажир молчал, видимо, опешивший от такого бессердечия. Он понял, что с такими людьми бесполезно разговаривать. Спокойно протянув деньги, он даже хорошего Нового года пожелал своим обидчицам. А те сидели, опустив головы, но в роли победительниц и, видимо, предвкушали, как высоко оценит их старание начальство.

Восточная мудрость гласит: чем иметь слепое сердце, лучше быть слепым на глаза, ибо слепой на глаза — это все же человек, а слепой сердцем — невежа. Даже если он исполняет приказ.

**Евгений СОЛОВЬЕВ.**

